Заснавана ў сакавіку 1935 года

# Добрушскі Край

Раённая масавая газета

Падпісны кошт нумара 15 рублёў.

Беларусь, твой народ дачакаецца
Залацістага, яснага дня...

№72 (8588)
6 ліпеня 2000 г.
ЧАЦВЕР

**У РАЙВЫКАНКАМЕ**

## Не ў меру магчымасцей

*Пачатак ліпеня — напружаны перыяд нарыхтоўкі кармоў для грамадскай і ўласнай жывёлы, падрыхтоўкі тэхнікі да ўборкі ўраджаю збожжавых. Невыпадкова гэта пытанне было ўзнята на мінулым пасяджэнні раённага выканаўчага камітэта.*

Адзначалася, што тэмпы правядзення гэтых работ жадаюць быць значна лепшымі. Убрана траў першым укосам менш 60 працэнтаў, назапашана сена ўсяго 23 працэнты да запланаванага, сенажу — 17 працэнтаў. Нарыхтавана ўсяго 1375 тон кансерванага корму, 51 тона травяной вітамінннай мукі. У цэлым на ўмоўную галаву жывёлы назапашана 2,6 цэнтнера кармавых адзінак. Адным словам, не густа. Асабліва нізкія тэмпы нарыхтоўкі фуражу ў калгасах імя Гагарына, "Перамога", "Чырвоны партызан", імя Суворава, саўгасе "Івакі", дзе назапашана ўсяго ад 0,2 да 0,8 цэнтнера кармавых адзінак на адну ўмоўную галаву жывёлы.

Не задавальняе сёння і ход падрыхтоўкі тэхнікі да ўборкі збожжавых. Задачы ж стаяць складаныя. Неабходна ўбраць 26972 гектары зерневых, для чаго ў гаспадарках раёна ёсць 175 камбайнаў. Гатоўнасць жа іх складае на 21 чэрвеня ўсяго 65 працэнтаў.

Умовы надвор'я, якія практычна немагчыма прадугледзець, нездавальняючы стан матэрыяльна-тэхнічнай базы, дэфіцыт фінансавых сродкаў патрабуюць сёння сур'ёзнай прапрацоўкі пытанняў, звязаных з комплексам работ па забеспячэнню паспяховай уборкі ўраджаю збожжавых. На жаль, у некаторых гаспадарках з прахалодай адносяцца да падрыхтоўкі тэхнікі да ўборачных работ. Не спяшаюцца з рамонтам камбайнаў у калгасах "Чырвоны Кастрычнік", "Перамога", "Зара камунізму", "Чырвоны партызан", імя Леніна, падсобнай гаспадарцы "Чырвоная ніва".

За нізкі ўзровень арганізацыі работ па нарыхтоўцы кармоў старшыням калгасаў "Перамога", імя Гагарына і "Чырвоны партызан" Н.І.Трус, Р.У.Старушэнку і В.А.Шырко раённы выканаўчы камітэт аб'явіў вымовы. За недастатковую арганізацыю работ па рамонту збожжаўборачнай тэхнікі кіраўнікам калгасаў "Чырвоны Кастрычнік", "Зара камунізму", імя Леніна, падсобнай гаспадаркі "Чырвоная ніва" В.І.Мордасу, М.М.Камяку, Л.П.Дзергачову, І.Я.Краснабаю ўказана.

Другім важным пытаннем, якое было абмеркавана на пасяджэнні райвыканкама, была работа Церахоўскага пасялковага Савета дэпутатаў, калгаса "Чырвоны Кастрычнік" і падсобнай гаспадаркі "Чырвоная ніва" па ахове і выкарыстанню зямель, паляпшэнню санітарнага стану замацаваных за імі тэрыторый. Адзначалася, што для вядзення асабістых падсобных гаспадарак жыхарам Савета выдзяляюцца зямельныя ўчасткі, вызначаны месцы для складзіравання цвёрдых бытавых адходаў.

Аднак поруч з гэтым у рабоце пасялковага Савета адзначаўся шэраг сур'ёзных недахопаў. Пры праверцы выяўлены невыкарыстоўваемыя ворыўныя землі як у калгасе "Чырвоны Кастрычнік", так і ў падсобнай гаспадарцы "Чырвоная ніва". У запушчаным стане знаходзіцца зямельна-ўліковая дакументацыя, несвоечасова вядзецца размеркаванне свабодных асушаных зямель. Зусім мала ўвагі ўдзяляецца барацьбе з пустазеллем.

*Раённы выканаўчы камітэт абавязаў кіраўнікоў, спецыялістаў гаспадарак забяспечыць своечасовае завяршэнне ўборкі кармавых культур, тэрмінова разгледзець пытанні падрыхтоўкі зернеўборачных камбайнаў, сушыльнай і складской гаспадаркі да жніва.*

Раённы выканаўчы камітэт прызнаў работу Церахоўскага пасялковага Савета, калгаса "Чырвоны Кастрычнік" і падсобнай гаспадаркі "Чырвоная ніва" па ахове і выкарыстанню зямель, паляпшэнню санітарнага стану належачых ім тэрыторый нездавальняючай.

За дапушчаныя ў вырашэнні гэтых пытанняў недахопы раённы выканаўчы камітэт аб'явіў вымовы старшыням Церахоўскага пасялковага Савета І.І.Шкляраву, калгаса "Чырвоны Кастрычнік" У.І.Мордасу, дырэктарам падсобнай гаспадаркі "Чырвоная ніва" Я.І.Краснабаю, вытворчага аб'яднання жыллёва-камунальнай гаспадаркі Г.П.Засуцкаму.

Церахоўскі пасялковы выканаўчы камітэт абавязаны карэнным чынам узмацніць работу па выкарыстанню зямель, паляпшэнню санітарнага парадку ў населеных пунктах, знішчэнню пустазелля. Тэрмінова прывесці ў належны парадак зямельна-ўліковую дакументацыю, рэгістрацыю гаражна-будаўнічага кааператыву. Да першага верасня выканкам пасялковага Савета абавязаны добраўпарадкаваць месцы для складзіравання цвёрдых бытавых адходаў.

Раённы выканаўчы камітэт абавязаў дырэктара вытворчага аб'яднання Г.П.Засуцкага да першага жніўня зрабіць рэкультывацыю закрытай смеццезвалкі на тэрыторыі Церахоўскага лясніцтва і добраўпарадкаванне новай пляцоўкі для складзіравання цвёрдых бытавых адходаў.

Кіраўніцтву калгаса "Чырвоны Кастрычнік" і падсобнай гаспадаркі "Чырвоная ніва" рэкамендавана да канца ліпеня забяспечыць заворванне раней нявыкарыстаных зямель.

Па-ранейшаму ў цэнтры ўвагі раённага выканаўчага камітэта застаецца пытанне выканання ўласных рашэнняў і рашэнняў вышэйстаячых органаў. Вось і на мінулым пасяджэнні было разгледжана пытанне аб рабоце Крупецкага сельскага выканаўчага камітэта ў гэтым накірунку. Адзначана, што сельвыканкам праводзіць пэўную работу па выкананню Закона Рэспублікі Беларусь "Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні ў Рэспубліцы Беларусь". У планах работы, парадках дня пасяджэнняў выканкама знаходзяць адлюстраванне пытанні сацыяльнай абароны малазабяспечаных груп насельніцтва, развіцця асабістых падсобных гаспадарак грамадзян, сельгасвытворчасці, арганізацыі закупу лішкаў сельгаспрадукцыі ў насельніцтва, добраўпарадкавання і падтрымання належнага санітарнага стану вёсак. Па абмеркаваных пытаннях прымаюцца, як правіла, грунтоўныя рашэнні.

Сельскі выканаўчы камітэт вядзе рэгулярную работу па кантролю за выкананнем рашэнняў райвыканкама, аб чым сведчаць дакументы яго пасяджэнняў, падтрымлівае пастаянную дзелавую сувязь з калгасам "Беларусь", вырашае праблемы ветэранаў вайны і працы і г.д.

І ўсё ж нельга сказаць, што ў рабоце сельвыканкама няма недахопаў. Не на належным узроўні знаходзіцца яго дзейнасць па ахове правапарадку, прафілактыцы правапарушэнняў і злачынстваў. Ужо ў гэтым годзе здзейснена дзевяць правапарушэнняў, у той час як за ўвесь мінулы год іх было чатырнаццаць. Працягвае працвітаць самагонаварэнне. Паслаблена работа па барацьбе з пустазеллем.

Работу Крупецкага сельскага выканаўчага камітэта па арганізацыі кантролю за выкананнем нарматыўных актаў вышэйстаячых органаў і ўласных рашэнняў раённы выканаўчы камітэт прызнаў недастатковай. Прынята адпаведнае рашэнне.

**НА ПАПЯРОВАЙ ФАБРЫЦЫ "ГЕРОЙ ПРАЦЫ"**

## Дзякуй, папернікі!

Яшчэ ў пачатку чэрвеня генеральны дырэктар прадпрыемства В.І. Лупекін падпісаў загад аб аказанні шэфскай дапамогі на корманарыхтоўцы калгасу "Зара камунізму".

Адразу ж у гаспадарку быў накіраваны бульдозер Т-170 з машыністам Н.П. Рыкуновым. Рабочы ўвесь час быў заняты на трамбоўцы сянажнай масы.

Затым на корманарыхтоўчыя работы падключыліся рабочыя папяровага, сшыткавага, цэха тавараў народнага спажывання, супрацоўнікі санаторыя-прафілакторыя "Сонечны", дзіцячага садка № 3.

У гаспадарку кормаўборачны "дэсант" дастаўляў фабрычны аўтобус. Да справы рабочыя прыступалі ў палове дзесятай гадзіны раніцы. Папернікі былі заняты на падграбанні сена, яго сціртаванні. Работы на сенажацях працягваліся да 15 гадзін. За ўдзельнікамі корманарыхтоўкі на прадпрыемстве захоўваўся сярэдні заробак.

— Малайцы, папернікі! — расказвае старшыня падшэфнай гаспадаркі М.М. Камяк. – Гэта не без іхняй дапамогі мы завяршылі першы ўкос траў у канцы чэрвеня, нарыхтавалі больш як 200 тон сена.

## Па накіраванню фабрыкі

На прадпрыемстве штогод вялікая ўвага надаецца падрыхтоўцы кадраў. Штогод па накіраванню фабрыкі ў сярэднія спецыяльныя і вышэйшыя навучальныя ўстановы на вучобу накіроўваюцца каля паўтара дзесятка выпускнікоў сярэдніх школ горада. Прычым, перавага аддаецца тым, чые бацькі працуюць на прадпрыемстве.

Кацярына Русецкая і Алеся Пушкарова селета закончылі СШ № 3 Добруша, Тамара Даўголенка – СШ № 5. Нядаўна гэтыя дзяўчаты атрымалі накіраванні на вучобу ў Гомельскі політэхнічны тэхнікум.

Сёлета гэтую ўстанову закончылі Алена Дзёміна, Іван Шарамецьеў і Дзмітрый Алампіеў. Яны выказалі жаданне працягваць вучобу ў Беларускім дзяржаўным тэхнічным універсітэце. Накіраванні яны таксама атрымалі на папяровай фабрыцы.

**Наш кар.**

**РЭЗАНАНС**

## "Самі сабе ворагі?"

*Пад такім загалоўкам у нумары нашай газеты ад 30 мая бягучага года была змешчана крытычная карэспандэнцыя, у якой прыводзіліся факты парушэнняў санітарнага парадку ў горадзе, абураючых паводзін дабрушан, якія разбіваюць вулічныя ліхтары, спілоўваюць дрэвы, псуюць механічнае агароджанне на набярэжнай...*

*Матэрыял быў дасланы на рэагаванне намесніку старшыні райвыканкама В.М.Зубку. Вось што ён паведаміў:*

"Факты, выкладзеныя ў карэспандэнцыі "Самі сабе ворагі?",- разгледжаны ў аддзеле райвыканкама па сацыяльна-эканамічнаму развіццю горада сумесна з аддзелам унутраных спраў, кіраўніцтвам ДРБУ-150 і раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі.

У мэтах захавання правілаў пагрузкі і транспарціроўкі будаўнічых матэрыялаў і інертных грузаў праектным рамонтна-будаўнічым упраўленнем "Гомельаблдарбуд" выраблена праектна-каштарысная дакументацыя на капітальны рамонт пагрузачна-разгрузачнай пляцоўкі і дарогі па вуліцы Гандлёвай. Гэтыя работы плануецца выканаць у трэцім квартале бягучага года пры наяўнасці фінансавання.

Прыняты дадатковыя меры па забеспячэнню грамадскага парадку ў Добрушы ў вячэрні час. Штодзённа працуюць два нарады міліцыі з ліку супрацоўнікаў аддзела за лік асабістага часу. Узгоднены планы адзінай дыслакацыі нарадаў медвыцвярэзніка і раённага аддзела аб'яднання "Ахова".

Распрацаваны таксама рабочы план па правядзенню аперацыі "Начны горад" і ахове грамадскага парадку ў месцах масавага адпачынку дабрушан. Створаны штаб па стабілізацыі аператыўнай абстаноўкі ў горадзе на чале з намеснікам начальніка аддзела ўнутраных спраў У.М.Емяльянавым.

У бягучым годзе папярэджана 35 фактаў хуліганства, за з'яўленне ў нецвярозым стане і распіццё спіртных напіткаў у грамадскіх месцах да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнуты 1225 грамадзян".

## "На лазні — замок"

*82 чытачы нашай газеты скардзіліся на тое, што больш як год ім няма дзе памыцца. А вось калі працавала лазня на прахадной папяровай фабрыкі "Герой працы", такіх праблем у людзей не ўзнікала.*

*Скарга была апублікавана 24 чэрвеня бягучага года. Аператыўна на крытычнае выступленне нашай газеты адрэагаваў генеральны дырэктар адкрытага акцыянернага таварыства "Добрушская папяровая фабрыка "Герой працы" В.І.Лупекін.*

Ён паведаміў, што ў студзені гэтага года камісія пад кіраўніцтвам намесніка старшыні райвыканкама В.М.Зубка, у якую ўваходзілі работнікі санітарнай службы, інспекцыі па прыродных рэсурсах і ахове акружаючага асяроддзя, упраўлення капітальнага будаўніцтва райвыканкама, архітэктуры, інспектара дзяржбуднагляду абследавалі тэхнічны стан будынка лазні і ўстанавілі, што далейшая яе эксплуатацыя немагчыма і небяспечна для людзей.

Камісія палічыла мэтазгодным прыцягнуць спецыялістаў праектных арганізацый для выдачы заключэння і праектнага вырашэння рэканструкцыі. Да таго ж, прадпрыемства на гэта не мае фінансавых рэсурсаў.

ФОТАРЭПАРТАЖ

# Двайное свята дабрушан















2 ліпеня ў Добрушы адбылося масавае гулянне. Прычын для святкавання было дзве: нацыянальнае свята — Дзень незалежнасці Рэспублікі Беларусь, другая нагода звязана з 440-годдзем з дня заснавання Добруша.

Успамінаецца першае падобнае мерапрыемства, праведзенае ў горадзе. Тады ў нас не было цяжару праблем "о хлебе насущном". Ніхто не задумваўся аб заўтрашнім дні. Прайшло нейкіх дзесяць гадоў, і ўсё карэнным чынам памянялася, і далёка не ў лепшы бок. Аднак, нягледзячы на складанасці жыцця, сёлетняе святкаванне ўдалося на славу. Адзначалася яно разнастайнасцю цікавых мерапрыемстваў.

Першымі на набярэжнай у нядзелю з'явіліся аўтамашыны, якія прывезлі на выставу-продаж тавары прамысловых і гандлёвых прадпрыемстваў. У прыватнасці, на суд гараджан лепшыя ўзоры сваёй прадукцыі прадставілі адкрытае акцыянернае таварыства "Добрушская папяровая фабрыка "Герой працы", закрытае акцыянернае таварыства "Добрушскі фарфоравы завод"...

Не засталіся ў баку і арганізавалі выставы сваіх падзелак школьнікі, выхаванцы станцыі юных тэхнікаў. Адным словам, на прылаўках, стэндах было на што паглядзець, чым паласавацца.

Само свята пачалося з урачыстага малебена з нагоды юбілею Добруша ў Свята-Нікалаеўскім саборы.

Затым эпіцэнтр падзей пераносіцца на набярэжную да помніка загінуўшым воінам-вызваліцелям. Пачынаецца мітынг-рэквіем "Паклонімся ўсім слаўным камандзірам і байцам". Адкрывае яго першы намеснік старшыні райвыканкама В.Ф.Вайцянок. Надыходзіць мінута маўчання. У цішыні ва ўнісон біенню сэрцаў прысутных гучаць 60 удараў. Слова прадастаўляецца добра вядомаму ў горадзе і раёне ветэрану Вялікай Айчыннай вайны Якаву Паўлавічу Судакову. Ад імя моладзі выступае першы сакратар райкама БПСМ Віталь Гуцаў. Да помніка ўскладаюцца вянкі, жывыя кветкі. У гонар абаронцаў Радзімы гучаць залпы салюта.

Даніна павагі воінам-вызваліцелям аддадзена. І ўвагу ўсіх прысутных прыцягваюць самадзейныя артысты. Над Іпуццю гучыць музыка. Перад гледачамі выступае ансамбль народнай песні "Свята" раённага Дома культуры.

Кранаюць душу песні, якія пад акампанемент Яўгена Жывапісца з прафесіянальным майстэрствам выконваюць Алег Дудко і Міхаіл Сцепанцоў.

Са сваімі нумарамі да нас прыехалі і самадзейныя артысты з гарпаселка Церахоўка. Тэматыка выступленняў адпавядае падзеі: "Мой горад, я песню табе прысвячаю".

Прыехалі да нас і госці. Гэта супрацоўнікі Гомельскага АМАПа. Яны дэманструюць прыёмы рукапашнага бою, паказваюць захоп "злачынцаў" у розных сітуацыях.

Не менш цікавым было выступленне калектыву Гомельскай конна-спартыўнай школы. Як і абяцалі, госці арганізавалі сапраўднае свята для дабрушан. Жадаючыя маглі праехаць па плошчы на пародзістым скакуне. Сваё майстэрства паказалі і нашы юныя спартсмены. Закончылася свята маладзёжнай дыскатэкай.

**В.ПЯТРОЎ.**





***НА ЗДЫМКАХ:** мітынг-рэквіем на набярэжнай; ускладанне вянкоў да помніка загінуўшым воінам; удзельнікі свята знаёмяцца з фотаработамі выхаванцаў СЮТа; выклікаюць цікавасць падзелкі школьнікаў; святочны салют; каля мікрафона — настаяцель Свята-Нікалаеўскага сабора айцец Сергій; як захапляюча праехаць на быстраногім скакуне; для коней з Гомельскай конна- спартыўнай школы і іх гаспадароў вышыня — не перашкода; гэты салодкі прыз трэнер ДЮКФП зараз уручыць сваім выхаванцам; АМАПаўцы дэманструюць захоп "злачынцаў"; смачна пахне каля прылаўкаў; гучаць, кранаюць душу песні самадзейных артыстаў; сваю прадукцыю прапануюць папернікі.*

**ФОТА В.ТАЛКАЧОВА.**



Вольга Еўтухова яшчэ калі вучылася ў школе, вырашыла пайсці бацькоўскай сцежкай. І яе мара ажыццявілася: зараз яна працуе вучаніцай у цэху тавараў народнага спажывання на лініі "Біламацік". І хаця на прадпрыемства ўладкавацца не так проста, Вользе ўдалося гэта праз цэнтр занятасці насельніцтва. Яе маці Ала Уладзіміраўна ў свой час працавала на фабрыцы прыёмшчыцай прадукцыі, бацька Аляксандр Міхайлавіч — у цэху сантэхнікі.

Добры настрой у дзяўчыны. Ды і як інакш? Завочна вучыцца ў Гомельскім політэхнічным тэхнікуме, у мінулым годзе выйшла замуж, жывуць са сваім Алёшай самастойна. Гады маладыя, а значыць — усё яшчэ наперадзе.

**ФОТА В.ТАЛКАЧОВА.**



# "Ганаруся прафесіяй сваёй"

*Так называўся ўрачысты вечар, прысвечаны Дню бібліятэк, які адбыўся нядаўна ў зале раённага Дома культуры імя Куйбышава.*

*Сустрэча, удзел у якой прынялі бібліятэчныя работнікі раёна, госці, стала асаблівай, яна дала магчымасць калегам сабрацца разам, пазносіцца, прыемна правесці час.*

Рашэнне аб святкаванні Дня бібліятэк, прынятае Беларускай бібліятэчнай асацыяцыяй у мінулым годзе, стала прызнаннем працы людзей, якія аддаюць жыццё ведам, новым ідэям, узбагачаюць нас культурай, — працы сціплай, але ў той жа час важкай і неабходнай.

Аптэкарамі і лекарамі людскіх душ, захавальнікамі кніжнай мудрасці называюць бібліятэкараў. І гэта сапраўды так, бо з любоўю прадстаўнікі гэтай старажытнай прафесіі беражна захоўваюць разам з першымі скруткамі і вялікімі тамамі пылінкі часу і запаветы стагоддзяў.

З поўным правам так можна сказаць пра тых, хто не адзін дзесятак год аддаў любімай рабоце, служыць чытачу верай, праўдай і кнігай. Як робяць гэта Н.Т.Галкіна, Т.А.Казлова, С.В.Грынчык, В.Я.Шамкіна, С.В.Касцянава і іншыя.

З цёплымі словамі віншавання звярнулася да сваіх калег загадчыца аддзела культуры райвыканкама Г.Д.Бярнацкая.

— Ні для каго не сакрэт, што ў нашы дні прэстыж прафесіі бібліятэкара невысокі, але ўсе мы, выбраўшы яе, ганарымся гэтым, — сказала яна.

Асаблівая ўвага на вечары была ўдзелена ветэранам бібліятэчнай справы, ім — Веры Варфаламееўне Краўцовай, Алене Фёдараўне Сцепанцовай, Раісе Міхайлаўне Башылавай, Ядвізе Аляксандраўне Цуканавай, Алене Міхайлаўне Бярнацкай — словы павагі, кветкі, сувеніры і прыгожыя песні.

Ад імя былых работнікаў бібліятэчнай сістэмы Н.Р.Шаблоўская падзякавала за тое, што іх памятаюць, шануюць.

Штогод на змену ветэранам працы прыходзіць маладое папаўненне, людзі, якіх прывабліває гэта прафесія. Дык няхай жа ўстановы, дзе яны працуюць, стануць сапраўднымі ачагамі культуры, а агонь іх сэрцаў абуджае думкі, дае радасць стасункаў — гэтага жадалі на свяце маладым бібліятэкарам іх больш вопытныя калегі.

## РЭХА ПАДЗЕІ

Дружны творчы калектыў працуе сёння ў цэнтральнай бібліятэцы. Шмат гадоў свайго жыцця аддалі гэтай справе А.І.Агеева, Л.В.Кіян, Л.П.Мазурава... Сваёй добрасумленнай працай яны ўносяць уклад у развіццё бібліятэчнай справы раёна. А без творчасці, задумак, адказнасці мастака-афарміцеля М.М.Сакалова нашы кніжныя храмы не былі б такімі прывабнымі.

Сапраўднага бібліятэкара адрозніваюць дзве ўласцівасці: цудоўныя веды ўсяго, што яму даверана, і здольнасць перадаць свае веды разам з любоўю да кнігі чытачу. А гэта можа зрабіць толькі творчы чалавек, які адчувае адказнасць за сваю справу. Такім чалавекам з'яўляецца Людміла Гаўрыленка — бібліятэкар Івакаўскай сельскай бібліятэкі, якая працуе ў сістэме вось ужо пятнаццаць год. Нядаўна яна адзначыла свой юбілей і на вечары прымала ад калег пажаданні ўсяго самага светлага, самага добрага, а таксама ганаровую грамату, якой была ўзнагароджана ў гонар прафесійнага свята.



Нікалаеўская сельская бібліятэка — зусім невялікая, у ёй заўсёды чыста і ўтульна, яна стала другім домам для жыхароў вёскі, а яе гаспадыня Вольга Бондарава за добрасумленную працу заслужыла любоў і павагу аднавяскоўцаў.

Словы ўдзячнасці гучалі таксама ў адрас В.Ц.Каўшаравай, Т. М.Снытко, А. А. Трубкінай, Г. П. Пархоменка, Л. А. Чэкан, Т. М. Капытковай і многіх-многіх іншых, хто за добрасумленную працу ўдастоены ганаровых грамат і прэмій. Для іх і ўсіх астатніх удзельнікаў мерапрыемства гучалі задушэўныя песні ў выкананні Міхаіла Сцепанцова і Алега Дудко.

На развітанне бібліятэкары жадалі, каб іх прафесійнае свята стала добрай традыцыяй, сімвалам адданасці доўгу, павагі да нялёгкай працы прапагандыста друкаванага слова.

**Л.ФЁДАРАВА.**

## ЭКАЛОГІЯ ДУШЫ

# А мяхі вярніце...

Днямі зайшоў у кабінет начальніка аддзялення грамадскай бяспекі і прафілактыкі РАУС Сяргея Кузьміча Петуха. Насупраць яго сядзела жанчына і нешта даказвала. Міжволі стаў сведкай гэтага дыялогу.

— Я дала яму чатыры мяхі, і няхай ён мне іх верне, — амаль камандным голасам заявіла Антаніна Іванаўна Рослікава, — і яшчэ, пасадзіце яго ў турму. Васіль мяне пабіў.

Што ж адбылося на самой справе? Антаніна Іванаўна Рослікава з Крупца добра ведала свайго крыўдзіцеля Васіля Міхайлавіча Талкачова. Дала яму чатыры мяхі і папрасіла... "дастаць"... бульбы. Дзе? Зразумела, — на калгасным буртавым полі. У якасці авансу разлічылася вадкай валютай.

В.М.Талкачоў, згодна дагавора, пайшоў за "таварам". Аднак, убачыўшы вартаўніка, спужаўся. Кінуў мяхі і — "рукі ў ногі". Калі Антаніна Іванаўна завітала да В.М.Рослікава, той толькі развёў рукамі.Жанчына пачала "качаць" правы. Гаспадар вывеў яе за тэрыторыю свайго домаўладання.

А.І.Рослікава пабегла ў міліцыю са скаргай на тое, што яе пабілі. Ёй параілі звярнуцца ў судова-медыцынскую камісію. Аднак слядоў фізічнага ўздзеяння там не знайшлі. І даведкі А.І.Рослікава не атрымала.

— Я пайду ў суд, пракуратуру, — гнеўным голасам крычыць жанчына. — А мяхі мне вярніце... І Васіля пасадзіце...

Разважаючы над гэтым фактам, узнікае толькі адна думка-пытанне: дзе ж Ваша сумленне, Антаніна Іванаўна?

**В.ЧАВУСКІ.**

# КАЛОНКА — ДАЙДЖЭСТ



## У ЛІТВЕ АБ'ЯДНОЎВАЮЦЦА ФІЛАНТРОПЫ

Трынаццаць літоўскіх і замежных прадпрымальніцкіх арганізацый аб'ядналіся ў першы ў краіне клуб філантропаў.

Свае формы дапамогі прапануюць закрытыя акцыянерныя таварыствы «Tyto alba», «Kraft Jacobs Suchard Lietuva», «Interfarma», «Arthur Andersen», а таксама Ашчадны банк Літвы, Канфедэрацыя прамыслоўцаў Літвы, Вільнюская асацыяцыя дробных прадпрымальнікаў і іншыя арганізацыі. Ініцыятарам клуба «Філантропія 2000» выступіў Балтыйскі фонд ЗША, які мае вялікі вопыт падтрымкі няўрадавых арганізацый.

Мэта клуба — заахвочванне дзейнасці добраахвотнікаў і дабрачыннасць, аб'яднанне дапамогі прыватнага сектара няўрадавым арганізацыям Літвы і грамадскасці малых гарадоў і вёсак краіны, дзе ўзровень жыцця людзей ніжэйшы, чым у вялікіх гарадах.

Вырашана праводзіць выбары Філантропа года, якому будзе ўручацца спецыяльны дыплом, падпісаны прэзідэнтам Літвы.

## НАРКАМАНАЎ ЛЕЧАЦЬ... ЭЛЕКТРАМАГНІТНЫЯ ІГОЛКІ

У Кітаі распрацавана новая апаратура па лячэнню наркаманаў, аснашчаная электрамагнітнымі іголкамі, паведаміла з Нанкіна пекінскае агенцтва Сіньхуа. Яна здольна на працягу 72 гадзін дапамагчы наркаманам вызваліцца ад наркатычнай залежнасці. Эфектыўнасць лячэння — 100 працэнтаў.

Апарат умяшчаецца ў невялікім чамадане і ўяўляе сабой устройства з праграмным кіраваннем электрамагнітнымі іголкамі. У час лячэння іголкі прымацоўваюцца да акупунктурных кропак вушэй пацыента.

Апаратура прайшла экспертызу, на яе выдадзены патэнт, і ў Кітаі пачата яе вытворчасць.

## ВЕНЕРЫЧНЫЯ ЗАХВОРВАННІ — ДЛЯ БАГАТЫХ?

Людзі, у якіх фінансавы дастатак вышэйшы за сярэдні, усё часцей трапляюць у групу рызыкі па венерычных захворваннях. Рэзка павялічылася колькасць хворых на сіфіліс сярод сельскага насельніцтва. Гэтыя факты прыводзіліся на рэспубліканскім семінары, які адбыўся ў Нацыянальным прэс-цэнтры і прысвечаны праблемам прафілактыкі і лячэння захворванняў, што перадаюцца палавым шляхам. Яго арганізавала Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь пры ўдзеле Сусветнай арганізацыі аховы здароўя.

Удзельнікі семінара адзначалі, што у рэспубліцы неабходна паскорыць асваенне сусветнай практыкі лячэння венерычных захворванняў, якая грунтуецца на ананімнасці пацыентаў.

## «ПРАПЕЦЫЯ» ДЛЯ ЛЫСЫХ

Нарэшце ў лысых з'явілася надзея на тое, што і на іх галаве з'явіцца шавялюра.

У брытанскія аптэкі паступіў новы сродак пад назвай «Прапецыя», выпускаемы фірмай «Мерк Шарп Доўлі». Пасля 6-месячнага прыёму прэпарата пачынаюць расці валасы. Штодзённа трэба выпіваць усяго адну пілюлю. Месячны курс цуда-сродку каштуе 40 долараў.

Але, як і ва ўсякай навінкі, тут таксама ёсць свае недахопы. У якасці пабочнага ўздзеяння ў некаторых пацыентаў наступае імпатэнцыя ці аслабяае сексуальная цяга.

Таму выбар — ці то заставацца лысым палавым гігантам, ці то станавіцца валасатым імпатэнтам — застаецца за кліентам.

## ФОТА БУДЗЕ РАЗМАЎЛЯЦЬ

Размаўляючы фотаздымак — ужо не мара, а справа бліжэйшай будучыні.

Фірма «Кодак» распрацоўвае лічбавую камеру, якая зможа не толькі фатаграфаваць, але і запісваць гукі, якія будуць чутны на працягу 10 секунд. Лепш за ўсё здымкі рабіць у час шлюбнай цырымоніі пад гукі царкоўных званоў ці пры хрышчэнні дзіцяці, калі яно крычыць.

На жаль, больш за такі кароткі адрэзак часу нічога пачуць нельга.

## Аддалі Машу... напракат

На незвычайны эксперымент пайшлі кіраўнікі саўгаса «Камінтэрн» Буда-Кашалёўскага раёна. Справа ў тым, што ў сённяшняй сітуацыі і гаспадарцы (дарэчы, як і іншым калгасам і саўгасам вобласці) цяжка з кармамі для грамадскага статка, і маладым сем'ям няпроста набыць карову для ўласнага падвор'я, бо цэны на яе «кусаюцца». У такой вось абстаноўцы паміж двума бакамі і было дасягнута пагадненне і ўзаемаразуменне.

А менавіта: згодна з пададзенай заявай рагуля Маша (Фрося, Ліда і г.д.) з саўгаснай фермы пераводзіцца ў хлеў таго ці іншага гаспадара. Хоча той мець ад яе выгаду — няхай клапоціцца аб тым, каб жывёліна была добра дагледжана і давала ўволю малака. Значыць, да выдзеленых напачатку саўгасам кармоў трэба і папасвіць яе, і сена нарыхтаваць на зіму, і буракоў, і бульбы. Малаком і рознымі вырабамі з яго новыя гаспадары забяспечваюць сябе самі, ды яшчэ кожны год здаюць саўгасу дзве тоны малака і цяля. Няпростыя ўмовы, здаецца. Але затое якая перспектыва! Калі гаспадары выканаюць іх — праз тры гады тая Маша (Фрося, Ліда і г.д.) стане ўжо не пракатным "аб'ектам", а асабістай уласнасцю. І апошняе. На эксперымент адгукнуліся ўжо каля дзесяці сем'яў. На чарзе — новыя.

## БАНК ТОЛЬКІ ДЛЯ ЖАНЧЫН

Банк, прызначаны толькі для жанчын і ў якім працуюць толькі жанчыны, адкрыты ў паўднёвакітайскім горадзе Шэньчжэнь. Як паведамляе кітайскае інфармацыйнае агенцтва Сіньхуа, акрамя бягучых аперацый банк дапамагае гаспадыням складаць сямейныя фінансавыя планы, прадстаўляе сваім кліентам інфармацыю аб працэнтных стаўках, валютных курсах, дзяржпазыках, кан'юнктуры на фондавых рынках, дае парады адносна выгаднага ўкладання асабістых збераженняў.

Паводле статыстыкі, 51,6 працэнта насельніцтва Шэньчжэня — жанчыны, якія, як правіла, «загадваюць» сямейнымі фінансамі. Ужо у першыя месяцы дзейнасці банка амаль што 5000 жанчын адкрылі ў іх свае рахункі.

**(Па матэрыялах перыядычнага друку.)**

ДАШКОЛЬНАЕ ВЫХАВАННЕ

# "Весела жывём"



У свой дзіцячы садок хлопчыкі і дзяўчынкі з вёскі Жгунь заўсёды ідуць з задавальненнем. І для гэтага ёсць усе падставы. Тут іх чакаюць клапатлівыя выхавацелі, сябры. "Рабочы" дзень у рабят насычаны цікавымі гульнямі, мерапрыемствамі, таму і праходзіць ён хутка. Не паспееш заўважыць, як прыходзяць бацькі, каб забіраць маленькіх.

У Жгунскім дзіцячым садку падрастаюць і свае юныя таленты. З дапамогай вопытных выхавацеляў хлопчыкі і дзяўчынкі могуць арганізаваць добры канцэрт для сваіх равеснікаў і работнікаў садка.

— Весела жывём, — гаворыць загадчыца дашкольнай установы Лідзія Пятроўна Гуцава. — Нават працуецца лягчэй, калі навокал бачыш усмешкі на тварах дзяцей.



**НА ЗДЫМКАХ: на сцэне-юныя таленты; праз некалькі хвілін зала ўзарвецца апладысментамі.**

**ФОТА В.ТАЛКАЧОВА.**

*Поздравляем!*

Сердечно поздравляем с 35-летием СУДАЕВА Юрия Алексеевича.

*Года идут.*
*А в них ли счастье?*
*А может счастье*
*в вечной страсти*
*Стремленья истину постичь,*
*Чтоб полноценной*
*жизнью жить,*
*Детей растить,*
*для них сжигаясь,*
*В их светлых душах*
*растворяясь,*
*Уметь без памяти любить...*
*Наверно, так и нужно жить?*
*Я звёзд дарить*
*тебе не в силах,*
*Но боль и радость разделю*
*С тобой, единственный*
*и милый.*
*Всё потому, что я — люблю.*

**Жена Надежда, дети Роман, Антон.**
**г.Добруш.**

ПЫТАННЕ — АДКАЗ

# На працягу трох рабочых дзён

***Што неабходна прадпрыняць асобе, якая прэтэндуе на страхавую кампенсацыю?***

**А.Касабуцкі, г.Добруш.**

***На гэта пытанне адказвае начальнік раённага аддзялення Белдзяржстраху А.С.КЛІМКОЎ.***

Асоба, якая прэтэндуе на атрыманне страхавой кампенсацыі, абавязана да складання акта аб страхавым выпадку захаваць транспартны сродак і іншую загінуўшую або пашкоджаную маёмасць у пасляаварыйным стане.

Страхавальнік абавязаны на працягу трох рабочых дзён з моманту, калі ён даведаўся або павінен быў даведацца аб наступленні страхавога выпадку, паведаміць пра яго страхаваццелю. Неабходна таксама ва ўстаноўленым парадку і ў прадугледжаны тэрмін паведаміць пра дарожна-транспартнае здарэнне ў дзяржаўную аўтамабільную інспекцыю.

У такім выпадку страхавальніку патрэбна прымаць усе магчымыя меры да папярэджання наступлення страхавога выпадку або скарачэння шкоды пры яго наступленні.

Страхавальнік таксама абавязаны прадаставіць страхаўшчыку дакументы і доказы, неабходныя для ўстанаўлення абставін і прычын дарожна-транспартнага здарэння, прад'явіць у выпадку неабходнасці транспартны сродак для агляду і экспертызы, а дзяржаўтаінспекцыі, пацярпеламу або яго родзічам — неабходную інфармацыю пра страхаўшчыка, з якім заключаны дагавор на страхаванне.

Калі страхавальнік па ўважлівай прычыне не меў магчымасці выканаць указаныя дзеянні, ён абавязаны даказаць гэта.

ЦІКАВА

# ЧАГО БАЯЦЦА МУЖЧЫНЫ

Нямецкі часопіс "Jornal fur die Frau" правёў апытанне сярод мужчынскага насельніцтва Германіі з мэтай высветліць, чаго мужчыны баяцца больш за ўсё.

Вынік аказаўся крыху нечаканым. Высветлілася, што сучасныя мужчыны больш за ўсё баяцца... быць недастаткова любімымі бацькамі сваіх дзяцей.

На другім месцы — прафесійная няздольнасць; на трэцім — быць кінутым каханай жанчынай; на чацвёртым — боязь няшчаснага выпадку; на пятым — страх страціць кантроль над жонкай ці падначаленым; на шостым — страх перад магчымай імпатэнцыяй.

СПОРТ

# Выручалі штанга і перакладзіна

Па-святочнаму выглядаў у мінулую нядзелю стадыён дзіцяча-юнацкага клуба фізічнай падрыхтоўкі. У гэты дзень у Добрушы праводзілася свята горада, прысвечанае 440-годдзю заснавання.

Яго ўпрыгожаннем для шматлікіх аматараў спорту стаў матч каманд нашага і Гомельскага раёнаў на першынстве Гомельшчыны.

Расказвае трэнер нашай каманды А.Я.Федарцоў:

— Гульня праходзіла пры перавазе дабрушан. Колькі разоў сапернікаў выратоўвалі ад непрыемнасцей штанга і перакладзіна! А гола забіць так і не ўдалося...

Гульня закончылася безвыніkова — 0:0. Дабрушане ў турнірнай табліцы пакуль захоўваюць другое месца, якое можа вывесці іх у наступны круг спаборніцтваў. А адрыў ад рагачоўцаў, якія ідуць на першым месцы, складае пяць ачкоў.

8 ліпеня ў чэмпіянаце вобласці заканчваецца першы круг. Нашы футбалісты на сваім полі сустрэнуцца з камандай Веткаўскага раёна.

15 ліпеня дабрушане стартуюць на Кубку вобласці па футболу.

**М. ПЛЁСАЎ.**

УДЗЯЧНАСЦЬ

# Ад чыстага сэрца

Некалькі гадоў калектыў Васільеўскага аддзялення паштовай сувязі ўзначальвае Ніна Храпкіна. Яна добра ведае сваіх аднавяскоўцаў.Нарадзілася у Васільеўцы, закончыла сярэднюю школу, паспела папрацаваць паштальёнам.

Зараз у аддзяленні працуе малады калектыў. Гэта паштальёны Людміла Бурутэнка, Ларыса Цуранава, Наталля Філімонцава, аператар Галіна Катлярэнка.

У аднавяскоўцаў няма ніякіх нараканняў на работу сувязістаў. Яны своечасова дастаўляюць людзям пенсію, паштовы перавод, перыядычныя выданні.

Састарэлым васільеўцам не патрэбна дабірацца на пошту, каб там заплаціць за карыстанне электраэнергіяй, газам, радыёкропкай.

Паштальёны заўсёды дапамагаюць людзям выбраць і аформіць падпіску на газету або часопіс.

Л. Бурутэнка, Л. Цуранава, Н. Філімонцава вялікую дапамогу аказваюць і работнікам нашага фельчарска-акушэрскага пункта. Робяць гэта яны ад чыстага сэрца, па закліку душы.

Паштальёны заўсёды сярод людзей. Захварэлі, напрыклад, дзядуля або бабуля, дзіця ў сям'і – абавязкова паведамяць мне. Тады спяшаюся да хворых людзей.

Зараз 95 працэнтаў насельніцтва нашага сельсавета прайшло флюараграфічнае абследаванне. І немалая заслуга ў тым васільеўскіх паштальёнаў, якія папярэдзілі людзей зрабіць гэта.

**В. ЗЕЛЯНКОВА,**
**патранажная сястра Васільеўскага фельчарска-акушэрскага пункта.**



Згубленае пасведчанне інваліда 1-й групы на імя РАГАЎЦОВА Васіля Канстанцінавіча лічыць **несапраўдным.**

"Добрушскі край" - масавая газета (на беларускай мове). Рэгістрацыйны №44. Індэкс 64176 (інд.), 63994 (вед.)

ЗАСНАВАЛЬНІКІ: Добрушскія райвыканкам, раённы Савет дэпутатаў, рэдакцыя газеты "Добрушскі край".

В.А. ГАЛОЎНАГА РЭДАКТАРА Л. ПІСКУНОВА

*Газета выходзіць у аўторак, чацвер і суботу. Друк афсетны. Аб'ём 1,0 друк. аркуш.*
Тыраж 5010 Заказ 1022

Адрас рэдакцыі: 247050, Рэспубліка Беларусь, г.Добруш, Гомельскай вобласці, вул. Савецкая, 33.

Тэлефоны:
галоўнага рэдактара ... 2-11-44
намесніка галоўнага рэдактара ... 2-19-62
прыёмнай ... 2-14-02
бухгалтэрыі ... 2-26-64
рэдактараў аддзелаў ... 2-39-91, 2-19-84.
E-mail:root@kraj.belpak.gomel.by

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыйна-паліграфічнага прадпрыемства "Добрушскі край", надрукавана на Добрушскай папяровай фабрыцы "Герой працы".
*Падпісана да друку — 8.30*

Меркаванне аўтараў публікацыі не абавязкова адлюстроўвае пункт гледжання рэдакцыі.

Дапамогу рэдакцыі ў тэхнічным забеспячэнні выпуску выдання аказвае навукова-вытворчае прадпрыемства "Сервер". Адрас НВП "Сервер": г.Гомель, вул.Карбышава,2, п.419. Тэлефоны: 47-47-50, факс 47-57-57.